# РАДЫЁВУХА №11-12

Бюлетэнь слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё «Палонія»

## DX-noviny DX-новости DX-news DX-НАВІНЫ DX-wiadomości DX-новини DX-noviny

■ Усеіндыйскае радыё з 26 чэрвеня мае рускамоўны эфір з 16.45 да 17.45 UTC на частаце 11620 кГц.

■ Радыё "Голас В'етнама" на рускай мове штодня перадае ў эфіры з 11.30 да 12.00 на частотах 9840 і 12020 кГц, з 13.00 да 13.30 на 7285 кГц, з 16.30 да 17.00 на 9730, 12420 ды 13740 кГц. З 19.00 да 19.30 станцыя вяшчае на частаце 12030 кГц.

■ Радыё "Прага" з 29 кастрычніка распачне штодзённыя перадачы на рускай мове. Яны будуць у эфіры на працягу паўгадзіны а 5.00, 12.30 ды 15.30 паводле Сусветнага скардынаванага часу. Частоты пакуль не вызначаны, але іх можна будзе даведацца на сайце: <www.radio.cz>, дзе неўзабаве з'явіцца рускамоўная старонка.

*Уладзімір Гудзэнка.*

■ "Радыё экстэр'ёр дэ Эспана" з панядзелка да пятніцы транслюе а 17.00 трыццаціхвілінную рускамоўную праграму на частаце 15195 кГц.

■ Транссусветнае радыё перадае хрысціянскія праграмы на польскай мове некалькі разоў штодня. Першая трансляцыя вядзецца а 5.15 UTC на частотах 7340 і 9475 кГц. Увечары на 7380 ды 9475 кГц гучыць выпуск у 15 гадзін. У панядзелкі радыёстанцыя вяшчае і ў сярэднехвалёвым дыяпазоне на частаце 1395 кГц а 19.15 паводле UTC.

TWR Impuls Polska

Радыё рассылае па просьбе слухачоў разнастайныя рэлігійныя матэрыялы.

■ З Бухарэста кожны дзень ідуць кароткахвалёвыя перадачы на рускай і ўкраінскай мовах. Па-руску Інтэррадыё "Румынія" транслюе свае гадзінныя праграмы на Далёкі Усход у 13.00 на 15270, 15405 і 17745 кГц. На Еўропу перадаюцца два выпускі а 15 ды 19 гадзінах паводле Грынвіча. Першая "еўрапейская" праграма прымаецца на частотах 11970 і 15365 кГц, другая - на 6125 ды 7205 кГц.

Украінскамоўныя перадачы гучаць з 5.30 да 6.00 (частата 7195 Кгц) і з 16.00 да 16.30 (частата 11970 кГц).

■ Польскамоўная праграма "Нямецкай хвалі" абвясціла сярод сваіх слухачоў конкурс на эмблему DX-клуба радыёстанцыі. Свае варыянты праектаў сімволікі можна прысылаць у Польскую секцыю радыёстанцыі звычайнай або электроннай поштай да канца верасня. Усім канкурсантам паабяцаны ўзнагароды.

*Юрась Сцяпанаў.*

DX-новини DX-wiadomości DX-новини DX-wiadomości DX-noviny DX-новости

DX-noviny DX-новости DX-news DX-новини DX-wiadomości DX-noviny DX-новости

DX-новости DX-noviny DX-новини DX-news DX-навіны DX-wiadomości DX-новости DX-noviny

# Свабодныя "хвалі" Балтыі

*Першага студзеня гэтага года ў Вільні пачала вяшчанне новая беларускамоўная радыёстанцыя "Балтыйскія хвалі". Карэспандэнт "Курьера" ўзяў інтэрв'ю ў "бацькі" новай радыёстанцыі дэпутата літоўскага парламента, чальца камітэта Нацыянальнай бяспекі абароны Літвы Рымантаса Плейкіса.*

**— Калі нарадзілася ідэя стварэння новага беларускага радыё?**

— У жніўні 1998 года з'явіўся праект беларускай радыёстанцыі ў Літве. Наша радыё — гэта аб'яднаны канал радыёвяшчання на беларускай мове. Мы вяшчаем на сярэдніх хвалях і арыентуемся перш за ўсё на беларускую дыяспару ў Літве, якая налічвае да 60 тысяч чалавек. Гэта сур'ёзная этнічная група, якая, на мой погляд, мала яшчэ мае сродкаў масавай інфармацыі. На "Балтыйскіх хвалях" трансліююцца перадачы Беларускіх рэдакцый радыё "Палонія" з Варшавы, радыё "Свабода" з Прагі, Літоўскага радыё і уласныя праграмы. З 1 ліпеня мы працуем у эфіры дзевяць з паловай гадзін у дзень.

**(працяг на стар. 2)**

# Свабодныя "хвалі" Балтыі

**— Аднак у вашым эфіры пакуль няма перадач радыё "Рацыя".**

— І радыё "Ватыкан", з якім мы яшчэ не змаглі дамовіцца. Іншая сітуацыя з радыё "Рацыя". Тут ёсць тэхнічныя праблемы: як забраць іх сігнал і г. д. Праблемы гэтыя, канешне, можна вырашыць. Аднак усё зноў упіраецца ў сродкі. Па маіх звестках, радыё "Рацыя" на сённяшні дзень яшчэ не мае дастатковых фінансавых гарантый. Груба кажучы, ім самім не хапае сродкаў.

**— Які юрыдычны статус вашай радыёстанцыі?**

— Гэта прыватная радыёстанцыя, якая створана, зарэгістравана і заліцэнзіравана ў Літоўскай Рэспубліцы. Заснавальнікамі "Балтыйскіх хваляў" з'яўляюцца восем фізічных асобаў: чатыры беларускія і чатыры літоўскія журналісты, сярод якіх і я. Радыёстанцыя існуе на сродкі фондаў у падтрымку свабоды слова і дэмакратыі. Гэта не якія-небудзь спецслужбы, як нехта падазравае ў Беларусі. Магу нават назваць нашых асноўных партнёраў: Вестмінстэрскі фонд дэмакратыі, Нацыянальны фонд у падтрымку дэмакратыі з ЗША, "Інстытут адкрытага грамадства", які з'яўляецца падраздзяленнем фонда Сораса і знаходзіцца ў Будапешце. Наш бюджэт на гэты год усяго 142 тысячы долараў. Гэтых грошаў нам хопіць толькі на адну гадзіну ўласнага штодзённага вяшчання.

**— Як выглядае летняя сетка вяшчання "Балтыйскіх хваляў"?**

— Па-першае, гэта частата 612 кілагерц, ці хваля 490 метраў. Ад 6 гадзін да 7 гадзін ранку ( менскі час) трансліюем радыё "Свабода". Потым у нас перапынак да 15.00. З 15.00 да 16.30 — радыё "Свабода". З 16.30 да 17.00 — музыка. З 17.00 да 18.00 — "Балтыйскія хвалі" з Вільні. Гэта нашы перадачы — палітыка, культура, інфармацыя, каментары. З 18.00 да 19.30 — радыё "Свабода". З 19.30 да 19.55 — радыё "Палонія". З 19.55 да 20.00 — музычная ўстаўка. З 20.00 да 21.30 — радыё "Свабода". З 21.30 да 21.40 — беларускія навіны Літоўскага радыё. З 21.40 да 22.00 — зноў музыка. І, нарэшце, з 22.00 да 23.30 — радыё "Свабода". Такім чынам, атрымліваецца дзевяць з паловай гадзін у дзень.

**— Што вы можаце сказаць пра чутнасць вашых перадач у Беларусі?**

— На жаль, мы карыстаемся тымі вяшчальнымі сродкамі, якія зараз знаходзяцца ў Вільні. Дарэчы, калісьці яны перадавалі праграму радыё "Маяк" з Масквы. У дзённы час якасць прыёму ў Менску, калі ацэньваць па пяцібальнай шкале, вагаецца ад тройкі да чацвёркі, у залежнасці ад блізкасці да крыніц радыёперашкодаў. Якасць гуку залежыць ад канкрэтнага месца прыёму і ад класа вашага прыёмніка. Намячаецца павышэнне магутнасці і некаторыя іншыя тэхнічныя мадэрнізацыі, якія палепшаць прыём. Гэта павінна адбыцца прыкладна ў канцы гэтага года ці ў пачатку наступнага. Пакуль нас чуваць толькі ў паўночна-заходняй і часткова ў цэнтральнай частцы Беларусі.

Да нашага з'яўлення беларускія радыёстанцыі былі яўнымі канкурэнтамі. Радыё "Свабода" магло некалькі крыва глядзець на радыё "Рацыя", сачыць, у каго хто працуе і г. д. У нашым жа эфіры яны будуць партнёрамі, хаця канкурэнцыя застаецца. Нехта, паслухаўшы наш канал, можа сказаць, што з Вільні перадачы занудныя, затое з Прагі выдатныя, ці нехта можа сказаць, што радыё "Рацыя" добра працуе, а "Свабода" дзесьці ўжо зблякла. Могуць быць розныя варыянты. Кожны выбірае сваё.

**— Але партнёрскія сувязі ўжо існуюць — радыё "Палонія" актыўна выкарыстоўвае матэрыялы, падрыхтаваныя радыё "Рацыя".**

— Магу Вам распавесці пра такі выпадак. Неяк я даў інтэрв'ю па тэлефоне. Здаецца, на Польскае радыё. Ці радыё "Рацыя". Тэма інтэрв'ю датычылася мясцовых палітычных пытанняў. Гэта інтэрв'ю прайшло па радыё "Рацыя", затым па "Палоніі" і затым па "Балтыйскіх хвалях". Вось вазьмі ды разбярыся, дзе гэты Плейкіс выступаў. Запісаў карэспандэнт радыё "Рацыя", прагучала на радыё "Палонія", а затым у блоку інфармацыі "Палоніі" прайшло па "Балтыйскіх хвалях". Усё так пераблыталася! Можа быць, і нічога страшнага. І яшчэ, адносна канкурэнцыі. Мне здаецца, што было б цікава, калі б радыёстанцыі пачалі між сабой дыскутаваць: тое, што сказала "Свабода", узяць бы пад сумненне ц крытыку ў радыё "Рацыя". І яшчэ. Можа быць, гэта дурная думка, але калі мы сябе ўяўляем такімі дэмакратамі, то, можа быць, варта ўключыць у наш аб'яднаны канал на беларускай мове якое-небудзь менскае радыё.

**— Ці маглі б Вы назваць асабіста асноўных супрацоўнікаў радыё "Балтыйскія хвалі"?**

— Наш галоўны рэдактар — Сяргей Шупа. У склад рэдакцыі ўваходзіць Сяргей Дубавец, Сяргей Харэўскі, іншыя журналісты. Гэта не так проста — скласці калектыў. Ёсць і іншыя добрыя журналісты ў Літве і ў Менску, якія б маглі бы працаваць разам у рамках нашай перадачы. Але я нярэдка сустракаўся з выпадкамі асабістай непрыязні тыпу такой развагі: калі ён будзе працаваць, то я не буду. Гэта вельмі сумна.

**— Як сустрэў вестку аб адкрыцці "Балтыйскіх хваляў" афіцыйны Менск?**

— Калі мы пачалі "званіць", што будзе такая радыёстанцыя, дзесьці напрыканцы 1998 года — пачатку 1999-га, то гэту ідэю сустрэлі ў штыкі не толькі ў Менску, але і ў Літве, у тым ліку ў літоўскім МЗСе, а таксама некаторыя таварышы ці спадары з Сейма. Агучваліся прымітыўныя версіі. Маўляў, Плейкіс з партыі кансерватараў, зараз яна раскалолася і перажывае не лепшыя часіны, таму ён будзе рабіць прапагандысцкі рупар для прапаганды кансерватараў або Ландсбергіса, і г. д. Да гэтага дадалася крытыка з прэзідэнтуры, што, маўляў, з'яўленне такой радыёстанцыі пашкодзіць сяброўскім адносінам паміж дзвюма суседнімі краінамі. Пасыпаліся пратэсты і з Менска. Пагэтаму нашыя чыноўнікі падстрахаваліся. У чэрвені 1999 года мы атрымалі адмову ў ліцэнзіі, ліцэнзію атрымалі толькі з другога разу ў канцы жніўня. Нам дапамагла сур'ёзная крытыка палітыкі Менска з Бруселя. У цяперашні час барацьба з намі з боку Менска аслабла. Мабыць, вырашылі не рабіць нам рэкламу. У гэтым ёсць і плюс, і мінус. Калі б Менск працягваў актыўна з намі змагацца, то ў нас маглі б узнікнуць праблемы з працягам ліцэнзіі. Але ў той жа час, калі Менск маўчыць, нам цяжэй шукаць сродкі. Вось і скажы, што лепш.

**— Ці можна дапусціць, што ў Беларусі пачнуць глушыць "Балтыйскія хвалі"?**

— Калі мы з Вільні даем 50 кілават, то пастаў у Менску тыя ж самыя 50 кілават з накіраванай антэнай, дапусцім з шумам, ці неяк больш элегантна — з музыкай ці з першай праграмай Беларускага радыё, то, канешне, ніхто ў Менску і на нейкай частцы цэнтральнай Беларусі не зможа нас прыняць. У іншых раёнах будзе фіфці-фіфці, ці дзесьці наша перавага па магутнасці. Але ў канцы XX стагоддзя, ці, як некаторыя кажуць, у пачатку XXI веку, у сярэдзіне Еўропы глушыць так брутальна — гэта было б дзікунствам. З іншага боку, гэта была б найвыдатнейшая для нас рэклама. Тады пачалася б сапраўдная радыёвайна па магутнасці, па іншых тэхнічных пытаннях. Праўда, на гэтым шляху можна дайсці да шызафрэніі. Пагэтаму лепш бы не глушылі...

***Гутарыў Алесь Козік ("Витебский курьер"), перакладала Надзея Сцяпанава.***

# Я шчаслівы ў "Рацыі"

*Нашыя чытачы вельмі цікавяцца новымі замежнымі беларускамоўнымі станцыямі - радыё "Рацыя" і "Балтыйскія хвалі". Ідучы насустрач просьбам DX-істаў, мы вырашылі надрукаваць скарочаны пераказ матэрыяла вядомай беластоцкай газеты "Ніва" пра вяшчанне "Рацыі" на беларускую аўдыторыю ў Польшчы. Перадачы для беларусаў Беласточчыны ідуць у FM-дыяпазоне.*

"Рацыя" - гэта перш за ўсё малады калектыў і новыя думкі ад маладых журналістаў. Гэта адчуваецца ў атмасферы фірмы: адкрытасць, ветлівасць, адсутнасць прэтэнцыёзнасці.

- Ва ўмовах заняпаду беларускага школьніцтва, прэсы, толькі радыё мае шанс існавання ў нашай прасторы, - кажа **Віктар Стахвюк**, дырэктар радыё "Рацыя".

**Валя Лаеўская**, па адукацыі беларусістка, пяць гадоў працавала на радыё "Свабода", родам з Бельска-Падляшскага, спецыялізуецца на навінах:

- Мой дэвіз: аб'ектыўна пра ўсё, каб у сваім адчуванні перадаваць справу аб'ектыўна, каб слухач сам выбіраў праўду са свайго пункту гледжання.

**Марко Забродкі**, раней журналіст радыё "Беласток", студэнт беларускай філалогіі ў Беластоку, спецыялізуецца на рэпартажах з глыбінкі:

- У "Рацыі" большыя магчымасці, як у перадачы "Пад знакам Пагоні" (беларускамоўнай праграмы радыё "Беласток" - **заўвага "Радыёвуха"**). Зараз можна нашмат шырэй прадстаўляць тэму, паказаць яе з некалькіх пунктаў гледжання. У працы найбольш цэніцца нармальнасць кантактаў з польскім слухачом і свойская атмасфера.

- Мне здаецца, што я шчаслівы ў "Рацыі", - кажа сам пра сабе **Ян Мордань**, журналіст і дэпутат мясцовага гміннага самакіравання , - калі мне так здаецца, то, пэўна, так і ёсць. Я шчаслівы, што свой эгаізм магу выяўляць перад публікай.

**Лукаш Сцепанюк**, студэнт беларускай філалогіі ў Варшаве, аўтар і рэдактар (разам з Хрыстафорам Сяськевічам) суботняга хіт-параду:

- "Рацыя" вядзе адзіны хіт-парад беларускай музыкі ў свеце. Наш хіт-парад слухаюць не толькі на Беласточчыне, але і ў Беларусі. Многа прыхільнікаў перадачы галасуе праз Інтэрнет.

Дэвіз: беларуская музыка, музыка, музыка. Далей - студэнцкае жыццё!

**Альжбета Бура**, выпускніца паланістыкі, рэдагуе выпускі ў панядзелак і вядзе ў суботу 15-хвілінную перадачу для дзяцей:

- Мая мара - навучыцца добра рабіць перадачы, быць прафесіяналкай.

Стаць прафесіяналам хоча таксама гукарэжысёр **Пятрусь Пракопчык**, студэнт беларусістыкі ў Беластоку. У нядзелі ён вядзе канцэрт пажаданняў.

- Нашы віншаванні бясплатныя. Наш слухач сам можа выбраць жаданую песню. Трэба толькі нам пазваніць або напісаць, - кажа сп. Пракопчык.

Ён найбольш цэніць у "Рацыі" сяброўскую атмасферу і магчымасць далейшага навучання прафесіі.

Для ўдзелу ў конкурсе на журналістаў радыё "Рацыя" звярнуліся трыццаць кандыдатаў, у большасці - студэнтаў, нядаўніх выпускнікоў універсітэтаў. Зараз станцыя мае чатырох штатных работнікаў і дваццаць супрацоўнікаў-карэспандэнтаў. Аднак, каб трапіць у штат радыё, супрацоўнікі павінны прайсці яшчэ цыкл курсаў. Яны мусяць навучыцца працаваць як прафесіяналы, каб кожны ўмеў падрыхтаваць інфармацыю, зрабіць рэпартаж, мог правесці перадачу, каб разбіраўся ў тэхніцы.

*Падрыхтаваў*
*Юрась Сціпанаў.*



# "Рацыя" вяшчае па-новаму

**З пачатку чэрвеня змяніўся расклад вяшчання радыё "Рацыя".**

Зараз ягоныя перадачы гучаць двойчы ў суткі. Першая трансляцыя вядзецца з 4.00 да 6.00 (UTC) на частаце 6035 кГц, другая - з 18.00 да 20.00 (UTC) на 6165 кГц.

*Зміцер Канапацкі.*

# "Сваё радыё" ў Пінску

**У "сталіцы" Палесся - Пінску - нарэшце з'явілася свая мясцовая радыёстанцыя.**

Яна называецца "Сваё радыё". Вяшчанне ідзе на частаце 106,1 Мгц. Трансляцыя вядзецца з панядзелка да пятніцы з 5 да 11 і з 14 да 20 гадзін UTC. У выхадныя дні станцыя вяшчае з 9.00 да 20.00 паводле Грынвіча.

Радыё працуе на рускай мове. У эфіры ў асноўным гучаць музычныя перадачы. Транслююцца таксама кароткія зводкі міжнародных навін, інфармацыя пра надвор'е, цэны на паліва ды абменныя курсы валют. Адрас станцыі: "Сваё радыё", вул. Карасёва, д. 6, г. Пінск, 225710.

*Зміцер Канапацкі.*

# Пра што будзем дыскутаваць цяпер?

Вялікімі крокамі набліжаецца да заканчэння чарговая, пятая ўжо, слухацкая дыскусія Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія". На гэты раз нашыя сябры разважалі на тэму "Беларусь і Польшча ў свеце XXI стагоддзя". Яшчэ, пэўна, месяц-два будуць у цыклічнай дыскусійнай рубрыцы прыводзіцца разважанні слухачоў на гэтую тэму, але так ці інакш - узнагароды за найбольш цікавыя лісты ўжо высланы пераможцам.

Як заўважылі некаторыя слухачы, на гэтую тэму даволі цяжка было разважаць, бо, вядома ж, пракрокам быць няпроста. Але хочацца прыпомніць, што менавіта самі радыёслухачы выбралі гэтую тэму. Трэба тут аднак звярнуць увагу на тое, што усе тыя, хто прапанаваў задумацца над перспектывамі нашых краінаў, Еўропы і свету ў наступным стагоддзі, самі прынялі ўдзел у гэтай дыскусіі.

Яшчэ, можа, надта рана падводзіць вынікі гэтых разважанняў. Пастараемся зрабіць гэта ў бюлетэні Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія" "Камунікат", друкуючы некаторыя найцікавейшыя роздумы. А сёння хачу звярнуцца да вас з прапановай задумацца над чарговай тэмай дыскусіі ў беларускамоўным эфіры з Варшавы.

Многія са слухачоў звярталі ўвагу на тое, што такога тыпу перадача павінна надалей існаваць у нашым эфіры. Гэтая рубрыка, як і перадача з цыклу "Рэдакцыйная пошта", дае магчымасць слухачам выказаць свае думкі, паслухаць, што на дадзеную тэму думаюць іншыя людзі, якія пражываюць у розных раёнах Беларусі. Варта тут адначасова падкрэсліць, што падобную дыскусійную праграму мае, як нам паведаміў адзін са слухачоў, бадай, яшчэ толькі адно замежнае вяшчанне на ўсходнеславянскай мове. Тады мяркую, што ў нашым эфіры захаваецца дыскусія з удзелам слухачоў.

Гэта, аднак, у вялікай ступені залежыць ад кожнага слухача беларускамоўных перадачаў радыё "Палонія" з Варшавы. Задумайцеся тады над новай тэмай, якая магла б зацікавіць як найбольшае кола нашых слухачоў. Вядома, было б нядрэнна, каб гэтая тэма ў нейкай ступені датычыла Польшчы і Беларусі.

Згадайма, што дагэтуль мы разважалі пра стан беларускай мовы і перспектывы яе развіцця, імкненні Польшчы ў Паўночнаатлантычны пакт і Еўразвяз, польска-беларускія ўзаемадачыненні на працягу многіх гадоў гісторыі, жыццё і творчасць Адама Міцкевіча ды апошнім часам пра перспектывы нашых краінаў і наогул свету ў XXI стагоддзі.

Пра што будзем дыскутаваць цяпер - у вялікай ступені залежыць ад вас. Чакаем вашых прапановаў, за якія таксама ў нас прадугледжаны ўзнагароды.

***Яраслаў Іванюк,***
***вядучы дыскусійнай рубрыкі***
***Беларускай рэдакцыі***
***радыё "Палонія".***

Новая віктарына

# Польшча ў Еўропе

*Руская рэдакцыя радыё "Палонія" абвясціла сярод сваіх слухачоў чарговы конкурс. Ён мае назоў "Польшча ў Еўропе". Адказы на віктарыну трэба прысылаць на адрас секцыі да канца кастрычніка. У якасці ўзнагародаў прадугледжваюцца фотаапараты, радыёпрыёмнікі, магнітафоны. Думаецца, нашыя чытачы актыўна падключацца да ўдзелу ў конкурсе.*

**ПЫТАННІ КОНКУРСУ:**

1. Якія дзяржавы ўваходзяць у групу краін-кандыдатаў у Еўразвяз і колькі чальцоў будзе ў Еўразвязе пасля ўступлення ўсіх кандыдатаў у гэтую арганізацыю?

2. Сколькі чальцоў налічвае НАТО пасля ўступлення туды Польшчы, Чэхіі і Вугоршчыны?

3. Дзе сёлета былі адкрыты мемарыяльныя могілкі польскіх афіцэраў, растраляных НКУС 60 гадоў таму назад?

4. Якіх галінаў грамадска-палітычнага жыцця тычацца чатыры буйныя рэформы, якія праводзяцца цяперашнім урадам Польшчы?

5. Якой вам бачыцца роля Паўночнаатлантычнага альянса ў сучаснай Еўропе?

***Расклад вяшчання Нямецкай рэдакцыі радыё "Палонія" на КХ***

| п/п | Час (UTC) | Частоты в кГц | Працягласць праграмы |
|---|---|---|---|
| 1. | 11.30 | 6095, 9525 | 25 хвілін |
| 2. | 14.00 | 6095, 7285 | 25 хвілін |
| 3. | 18.00 | 7265 | 25 хвілін |

***Расклад трансляцыі Ангельскай секцыі радыё "Палонія" на КХ***

| Час (UTC) | Дыяпазон | Частоты ў кГц | Працягласць вяшчання |
|---|---|---|---|
| 12.00 | Кароткія хвалі | 6095, 7270, 9525, 11820 | 55 хвілін |
| 17.00 | Кароткія хвалі | 6000, 7285 | 55 хвілін |
| 19.30 | Кароткія хвалі | 6035, 7185, 7265, 9540 | 55 хвілін |




**Электронныя адрасы асобных секцый радыё “Палонія”**

Ангельская рэдакцыя: ................................................ <english.section@radio.com.pl>.
Беларуская рэдакцыя: ........................ <bielarusk@radio.com.pl>, <ajny@radio.com.pl>.
Літоўская рэдакцыя: ........................................................................ <druto@radio.com.pl>.
Нямецкая рэдакцыя: ................................................ <deutsche.redaktion@radio.com.pl>.
Руская рэдакцыя: ........................................................ <redakcja.rosyjska@radio.com.pl>.
Польская рэдакцыя: .................................................................. <polonia@radio.com.pl>.
Украінская рэдакцыя: ................................................ <redakcja.ukrainska@radio.com.pl>.
Служба вяшчання на чэшскай і славацкай мовах: ...................... <cz.sk@radio.com.pl>.
Рэдакцыя вяшчання на эсперанта: ...................................... <esperanto@radio.com.pl>.

## DX-інг па-польску

### ODBIERAĆ AUDYCJĘ NA KRÓTKICH FALACH

**Па просьбе аднаго з нашых сталых чытачоў у другім уроку “DX-інгу па-польску” змяшчаем асноўную тэрміналогію, якая можа спатрэбіцца для складання справаздачы аб чутнасці радыёперадачы. Завяршыць гэтую тэму плануем у наступных нумарах выдання.**

Як і ў мінулы раз, пачнем з польскай фанетыкі.

Звяртаем вашую ўвагу на пастаноўку націску ў польскай мове. У падаўляючай большасці выпадкаў акцэнт падае на перадапошні склад ад канца слова: **nadawać** [надáвачь], **częstotliwość** [чэⁿстотлíвошьчь], **zakres** [зáкрэс]. Пагэтаму з цяперашняга занятку мы не будзем без асаблівай патрэбы вызначаць націск у транскрыпцыі.

Сёння мы пазнаёмімся са словам з літарай g. Яна абазначае па-польску гук, рэдкі ў беларускай ці ўкраінскай мовах. Затое яго часта можам сустрэць у рускіх словах: *год, город, деньги.*

У польскай мове існуюць два знакі, што абазначаюць [у] — u, ó. У большасці выпадкаў у адпавядае беларускім літарам а, о: **krótki** — кароткі, **żółty** – жоўты, **Kraków** –Кракаў.

**Rozgłośnia** [розгўошьня] радыёвяшчальная станцыя; радыё.

**Audycja** [аўдыц’я] перадача.

**Audycja radiowa** [аўдыц’я рад’ёва] перадача.

**Nadawać audycje** [надавачь аўдыц’еⁿ] трансляваць, перадаваць.

**Odbierać** [одберачь] прымаць.

**Odbiornik radiowy** [одбёрнік рад’ёвы] радыёпрыёмнік.

**Odbiór** [одбюр] прыём.

**Częstotliwość** [чэⁿстотлівошьчь] частата.

**Fala** [фаля] хваля.

**Krótkie fale** [крутке фале] кароткія хвалі.

**Zakres** [закрэс] дыяпазон.

**Zakres długości fal** [закрэс дўугошьчі фаль] дыяпазон хваляў.

### Тыдзень Польскага радыё

З 4 па 10 верасня ў варшаўскім эфіры пройдзе цыкл перадач, прысвечаны 75-ым угодкам заснавання польскага публічнага радыёвяшчання. Тыдзень Польскага радыё будзе складацца з тэматычных праграм, што адлюструюць розныя напрамкі радыйнай дзейнасці.

***Ю.С.***

Клуб слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія" сардэчна віншуе **Зміцера Канапацкага** (Берасцейская вобласць) з выдатнай перамогай у конкурсе бюлетэня "Радыёвуха" на веданне дзейнасці Беларускай секцыі радыё "Палонія"!

**Заяўка ў “Канцэрт віншаванняў” Беларускай рэдакцыі радыё “Палонія”**

Прашу на хвалях Беларускае рэдакцыі радыё “Палонія” перадаць віншаванні/прывітанні (імя, прозвішча, вуліца, нумары дома і кватэры, горад, паштовы індэкс):

______________________________________

______________________________________

Прапанаваны тэкст віншаванняў/прывітанняў:

______________________________________

______________________________________

______________________________________

______________________________________

Калі перадаць віншаванні/прывітанні (дата): ______

Хто перадае віншаванні/прывітанні (імя, прозвішча, вуліца, нумары дома і кватэры, горад, паштовы індэкс):

______________________________________

______________________________________

Колькасць патрэбных бланкаў заявак ___ ды інфармацыйных лістовак з раскладам перадачаў Беларускай рэдакцыі радыё “Палонія” для раздачы сярод знаёмых ___ .

Дакладныя каардынаты адрасатаў віншаванняў і тых, хто віншуе, патрэбныя дзеля лёсавання невялікіх узнагародаў, якое праводзіцца раз на тры месяцы сярод усіх жадаючых прыняць удзел у “Канцэрце віншаванняў”.

Просьба пісаць выразна.

### *Расклад вяшчання Беларускай рэдакцыі радыё «Палонія» на кароткіх хвалях*

| № | ЧАС ПЕРАДАЧЫ ПАВОДЛЕ UTC | ЧАСТОТЫ | ДЫЯПАЗОНЫ | ПРАЦЯГЛАСЦЬ ВЯШЧАННЯ |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 11.30 | 7285 кГц<br>5995 кГц | 41,18 м<br>50,04 м | 25 хвілін |
| 2. | 13.30 | 6035 кГц<br>5995 кГц | 49,74 м<br>50,04 м | 55 хвілін |
| 3. | 16.30 | 7285 кГц<br>6000 кГц | 41,18 м<br>50,00 м | 25 хвілін |
| 4. | 17.00 | 7180 кГц<br>6035 кГц | 41,78 м<br>49,71 м | 55 хвілін |
| 5. | 20.30 | 7340 кГц<br>6035 кГц | 40,87 м<br>49,71 м | 25 хвілін |

***Напісаць на Беларускую рэдакцыю радыё “Палонія” можна па адрасах:*** **Redakcja Białoruska Radia Polonia, skr. poczt. 46, 00-977 Warszawa, Polska/Польшча** ***або*** **Беларуская секцыя радыё “Палонія”, а/с 5, г. Віцебск, 210038, Беларусь.**

***Пазваніць з Беларусі на Беларускую рэдакцыю радыё “Палонія” можна па наступных нумарах:*** **(8-10)(4822)6459366 ды (8-10)(4822)6459367.**

**БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ РАДЫЁ “ПАЛОНІЯ” Ў ІНТЭРНЕЦЕ ПА АДРАСЕ: HTTP://RADYJO.8M.COM**

# Жывая размова пра свет і пра сябе

"Бі-бі-сі" слухаюць і глядзяць мільёны людзей на ўсёй планеце. Гэта радыё- і тэлевяшчальная карпарацыя па праву лічыцца найбольш прэстыжнай і знакамітай у свеце.

У сваёй дзейнасці "Бі-бі-сі" кіруецца каралеўскай хартыяй, якая гарантуе незалежнасць карпарацыі ад урада. Зараз у "Бі-бі-сі" - два тэлеканалы, пяць нацыянальных радыёсетак і мноства мясцовых радыёстанцый.

Сусветная служба "Бі-бі-сі" з'яўляецца часткай знакамітай карпарацыі, якая была заснавана ў 1927 годзе. У "Бі-бі-сі" 140 мільёнаў слухачоў ва ўсім свеце.

Сусветная служба вядзе перадачы з Лондана больш чым на сарака мовах, у тым ліку і па-руску.

Руская служба радыё "Бі-бі-сі" ўступіла ў другую палову стагоддзя свайго існавання і набліжаецца да новага тысячагоддзя з новымі ідэямі і творчымі планамі. Аднак задача Рускай службы "Бі-бі-сі" па-ранейшаму складаецца з таго, каб своечасова, дакладна і непрадузята асвятляць сусветныя падзеі, навіны культуры і навукі і, зразумела, забаўляць радыёслухачоў.

За паўстагоддзя сваёй дзейнасці Руская служба "Бі-бі-сі" заваявала рэпутацыю надзейнай крыніцы інфармацыі. Ля вытокаў службы стаялі Аляксандр Лівен і Анатоль Гольдберг, чыі галасы добра памятаюць многія слухачы старэйшага ўзросту. У 60-70-я гады палітычны аглядальнік Анатоль Гольдберг штовечар быў субяседнікам ледзь ні ў кожным доме.




Новая з'ява некалькіх апошніх гадоў - рэтрансляцыя перадач "Бі-бі-сі" - дазволіла ёй абзавесціся многімі партнёрамі ў Расійскай Федэрацыі. "Радыё Расіі" рэтранслюе перадачы Рускай службы "Бі-бі-сі" - гэта і спецыяльны выпуск радыёхронікі бягучых падзей "Гледзячы з Лондана", і часопіс "Аб жыцці ў Вялікабрытаніі", і многае іншае. Партнёрскія зносіны склаліся ў Рускай службы "Бі-бі-сі" і са шматлікімі мясцовымі радыёстанцыямі.

Са студзеня 1998 года Руская служба прадстаўлена ў Інтэрнеце. Там можна знайсці навіны, якія абнаўляюцца кожную гадзіну, расклад вяшчання, аб'явы пра тэматычныя праграмы. Акрамя таго, можна пачуць штодзённы выпуск перадачы "Радыус" у фармаце RealAudio. Шукайце Рускую службу радыё "Бі-бі-сі" па адрасе: <http://www.bbc.co.uk/russian>.




Клуб слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія" вельмі ўдзячны варшаўскаму Фонду "Oświata Polska za Granicą" і беларускай грамадскай арганізацыі "Polska Macierz Szkolna" за выдатныя друкаваныя матэрыялы, якія дапамаглі стварыць дадзены нумар бюлетэня "Радыёвуха".







QSL-паведамленне Інтэррадыё "Румынія".







Пацверджанне аб прыёме радыё "Голас Ісламскай Рэспублікі Іран".

**Клуб слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія"** выказвае шчырую ўдзячнасць **Цэнтру моладзевых ініцыятыў "Контур"** за прадастаўленую ўзнагароду пераможцу конкурсу бюлетэня "Радыёвуха" на веданне дзейнасці Беларускай секцыі радыё "Палонія".

**Выказваем вялікую падзяку за дапамогу ўсім тым, хто адгукнуўся на нашую просьбу прыслаць чыстыя канверты і маркі. Асаблівыя словы ўдзячнасці накіроўваем у адрас спадара Віктара Кавалёва з Магілёва, які прэзентаваў рэдакцыі нашага выдання вялікую колькасць разнастайных канвертаў!**

**Рэдакцыя бюлетэня "Радыёвуха".**



**Талон на атрыманне бюлетэня «Радыёвуха»**

Імя, прозвішча_______________________________

Адрас (з індэксам)_______________________________

_______________________________

Тэлефон____________________ Подпіс ____________________



***Шаноўнае спадарства!***

Шчыры дзякуй за № 10 "Радыёвуха"! Атрымаў календарыкі радыё "Свабода". У адказ магу выслаць хіба што пару бюлетэняў "Бі-бі-сі". Прабачце, калі яны ўжо ў вас ёсць, але я жадаю таксама зрабіць вам падарунак, нават калі не маю дзеля гэтага магчымасцяў...

Быў вельмі рады прачытаць у вашым бюлетэні агляд дзейнасці Украінскай рэдакцыі Міжнароднага канадскага радыё. Між іншым, год таму назад я да іх дапісаўся, і нават атрымаў адказ. Паспрабую напісаць на радыё "Аўстралія" ды на"Балтыйскія хвалі" (такім чынам, спатрэбіліся пададзеныя вамі адрасы). Быць можа, з радыё " Аўстралія" мне вышлюць які-небудзь буклет.

Жадаю вам поспехаў у выданні бюлетэня!

З павагаю,

***Уладзіслаў Жыгалка, Менск.***






***Паважаны Юрый!***

Вялікі дзякуй за № 8 "Радыёвуха", які я атрымаў 5 траўня, што было для мяне прыемнай нечаканасцю.

На чатырох старонках шмат цікавага. Спадзяюся, што ў далейшым старонак будзе болей.

Далёкім радыёпрыёмам я займаюся з 1993 года. Маю "Ишим – 003". Для "крутога" DX-інга ён слабаваты, але ўвесь гэты час мяне задавальняе, бо на дарагія прыёмнікі разлічваць зараз не прыходзіцца.

У Луцку ўначы даволі добра чутныя радыёстанцыі Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі, Блізкага Усходу. 13 сакавіка 2000 года а 19.30 – 20.40 прымаў аргентынскую LRA36 (Антарктыда). Адправіў ім рапарт. Адказу пакуль не атрымаў – усялякае можа быць.

Слухаю перадачы Украінскай рэдакцыі Польскага радыё. Яны цікавыя, мне падабаюцца.

Перапісваюся з радыё „Швецыя", вяшчаннем Паўднёвай Карэі, Міжнародным канадскім радыё, „РАІ-Інтэрнешнл", радыё „Нідэрланды"...

Шкадую, што з частот 65 – 75 МГц зніклі польскія станцыі. Іх было чуваць у нас не менш дзесятка.

Жадаю поспехаў, усяго найлепшага.

***Уладзімір Старыкаў, Луцк, Украіна.***

***Паважаны Юрась!***

Вялікі дзякуй за чарговы нумар "Радыёвуха" і за каляндарыкі з раскладам перадач радыё "Свабода".

Проста цудоўна, што ўжо юбілейны 10-ты нумар бюлетэня выйшаў у павялічаным аб'ёме. Хацелася б, каб такі аб'ём захаваўся па магчымасці і надалей.

У гэтым чарговым нумары "Радыёвуха" я, як і заўсёды, знайшоў для сябе нямала цікавай інфармацыі. Мне вельмі спадабаўся артыкул "Польскае радыё ў міжваенны перыяд". Добра таксама, што вы ўвялі новую рубрыку "DX-інг папольску". Было б нядрэнна, калі б вы неяк у будучым распавялі ў гэтай рубрыцы, як можна па-польску скласці рапарт пра чутнасць.

На першай старонцы быў змешчаны расклад Міжнароднага радыё Славакіі. Не ведаю, у чым справа, але мне нешта ніяк не ўдаецца наладзіць кантакт з гэтай радыёстанцыяй. У яе адрас я ўжо накіраваў два лісты з рапартамі, але ніякага адказу так і не атрымаў.

Тым не менш, мая QSL-калекцыя на мінулым тыдні ўсё ж крыху павялічылася. Яна папоўнілася першай QSL-карткай ад радыё "Дамаск" і новымі QSL ад Міжнароднага радыё Тайбэя.

На старонках бюлетэня вы аб'явілі таксама конкурс, прысвечаны перадачам Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія". Я вырашыў паспрабаваць свае сілы і прыняць у ім удзел.

Хацеў бы выказаць вам, Юрась, падзяку за пажаданні ў мой адрас, якія прагучалі ад вас у "Канцэрце віншаванняў". Вы проста не ўяўляеце, як прыемна было іх пачуць. Дзякуй!

***Зміцер Канапацкі, в. Дзятлавічы, Лунінецкі раён, Берасцейская вобласць.***

***Добры дзень, паважаныя выдаўцы "Радыёвуха"!***

Праз Міжнароднае канадскае радыё на рускай мове я даведаўся аб тым, што выйшаў у свет DX-бюлетэнь на беларускай мове. Як я зразумеў, па вашым адрасе можна заказаць гэты бюлетэнь. Я вельмі спадзяюся, што змагу азнаёміцца з вашым выданнем. Я толькі не зразумеў, ці з'яўляецца ваш бюлетэнь перыядычным выданнем, ці гэта толькі адзіны нумар. Калі гэта перыядычнае выданне, то, калі ласка, паведаміце, як яго можна заказаць і колькі трэба плаціць за вашае выданне. З павагай,

***Роландс Страутмаліс, Латвія.***

РАДЫЁВУХА

**Выходзіць штомесяц. № 11-12, чэрвень-ліпень 2000 года.**

**Бюлетэнь адлюстроўвае прынцыпы дзейнасці радыё ў дэмакратычным грамадстве, працу Польскага радыё, дзейнасць Клуба слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія", падае інфармацыю пра беларускамоўныя станцыі ў свеце, расказвае аб DX-руху ў Беларусі.**

Адрас: "Радыёвуха", а/с 18, г. Віцебск, 210015, Беларусь.
Тэл.: 33 49 21.
Галоўны рэдактар: Юрась Сцяпанаў.
Набор: Юрась Сцяпанаў, Надзея Сцяпанава.
Дапамога: Зміцер Канапацкі, Алесь Міснік, Надзея Сцяпанава.

Вёрстка: Сяржук Серабро (ЦМІ «Контур»).
Надрукавана Віцебскім аддзяленнем Фонду імя Льва Сапегі.
**Выдавец: Цэнтр моладзевых ініцыятыў "Контур".**
**Пры падтрымцы USIS.**
Наклад 200 паасобнікаў. На правах рукапісу.